# Самапомач

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопісь

Год IV. | Вільня, Чэрвень 1935 г. | № 6.

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу.*

Джордж РЭССЭЛЬ (Ірляндзец).



## ЗЬМЕСТ № 6 (35).



## Ceny ŭ Vilni

*26.VI.35. Ceny za 100 kilohram.*

### Zbožža.

(Ceny orjentacyjnyja, z papiarednich dzion).

| | |
|---|---|
| Pšanica | 17.75—18 50 |
| Jačmień na pansak | 14,00—15 00 |
| Avios | 13,75—15,25 |
| Hračycha | 17 00—19.00 |
| Muka pšaničnaja | 13.00—30 00 |
| Muka, žytniaja da 55°/o | 22 00—22.50 |
| Muka žytniaja da 65°/o | 18.00—18 50 |
| Muka sitkovaja | 14.50—15 00 |
| Muka razovaja | 14.50—15.00 |
| Muka žyt. da 82°/o (typ vajskovy) | 16.00—16 50 |

### Miasnoje 13.VI. za 1 kilo.

| | |
|---|---|
| Vałovina, całyja štuki, | 0.75—0.85 |
| „ zady | 0.90—1.00 |
| Vałovina pierady (košer) | 1.05—1.20 |
| Cialacina, | 0.80—0.85 |
| Švinina | 0.80—0.90 |

### Skury syryja.

| | |
|---|---|
| Skury bydlačyja, syryja, za 1 kilo | 0.75 |
| Skury cialačyja, za štuku | 4.20—4.50 |

### Małočnaje za 1 kilo (14.VI.35.).

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, za kilo ŭ hurcie | 1.70—1 80 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.10 |
| Masła stałovaje za kilo ŭ hurcie | 1.60—1 65 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 1.90 |
| Masła solenaje za kilo ŭ hurcie | |
| „ „ „ „ u detalu | |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1.40—2.10 |
| „ „ „ „ u detalu | 1.60—2.60 |
| Syr navahradzki, za kilo ŭ hurcie | 2.80—2.90 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 3,50 |
| Jajki, kapa | 2.70—3 60 |
| „ štuka | 5—7 hrašoŭ |

# Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŪNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

# Самапомач

| Hod IV. | Vilnia, Červień 1935 h. | Nr. 6 (35). |
|---|---|---|


## *Kooperatyŭna-haspadarskija naviny.*

**Svajo lepš čužoha.** U śviežaj jašče pamiaci tyja časy, kali sojmikavyja i roznyja inšyja prysłanyja instruktary nahavarvali našych sialan pierastać hadavać skacinu miascovaha pachodžańnia i kuplać za darahija hrošy skacinu zavodnuju, „čyrvona-polskuju". Nie adzin pavieryŭ hetym namovam i — paškadavaŭ: čyrvona-polskaja skacina dobraja, ale nia ŭ nas. Zrazumieli heta hadaŭcy paŭnočnych pavietaŭ Vilenščyny i — choć pozna — 1 traŭnia sioleta, sabraŭšysia ŭ Hłybokim, pastanavili załažyć „Sajuz hadaŭcoŭ skaciny paŭnočna-polskaj".

Pryčyny, jakija zmusili zakładčykaŭ novaha sajuzu zrabić hety krok, zapraŭdy cikavyja i vartyja ŭvahi. Niaŭdačny tolki nazoŭ taho sajuzu, a ŭłaściva — nazoŭ samaj skaciny: čamu heta skacina, vyhadavanaja ŭ paŭnočnych pavietach Vilenščyny značna raniej, čym hetyja ziemli naahuł uvajšli ŭ skład Polšču, — čamu hetaj skacinie pryčapili nazoŭ „paŭnočna-polski"?.. Ci tolki tamu, što prysłužniki silnych hetaha śvietu starajucca siahońnia skroś—usio ŭ nas nazvać polskim?.. Słaby heta dokaz naahuł, a ŭ zootechnicy — prosta niedapuścimy...

Hadaŭlanyja vartaści „paŭnočnaj" skaciny majuć być nastupnyja: 1. genetyčnaja čystaść, 2. dobraje zdaroŭje, 3. vysokaja tučnaść małaka (4 prac.), 4. niezraŭnaja ŭ nas zdolnaść vykarystańnia błahich paśbiščaŭ i paš, a tak-ža 5. vialikaja zdolnaść padniaćcia małočnaści pry lepšym dahladzie. — Siarod prychilnikaŭ hetaj skaciny treba aznačyć viedamaha ŭ nas hadavielnika Ul. Masalskaha i Dyrektara Daśledčaha Zootechničnaha Instytutu ŭ Śvisłačy D-ra Čaju. Vielmi karysna ab hetaj skacinie adazvaŭsia taksama letaś suśvietnaj słavy praf. L. Adametz z Vieny, jaki budučy letaś na našych ziemlach radziŭ kaniešna hadavać našu skacinu ŭ čystaj rasovaj linii.

Novy Sajuz hadaŭcoŭ abymacimie paviety: dzisienski, brasłaŭski, postaŭski, vialejski i śviancianski.

**Žyta patanieje — masła i miasa padaražeje.** Dahetul polskaja kazna dapłačyvała značnyja sumy hrošaŭ tym, chto vyvoziŭ zahranicu žyta. Padtrymoŭvałasia hetak cana na žyta na rynku krajovym. Dnia 3 červienia siol. ŭ Ministerstvie ziemlarobstva adbyłasia narada, na jakoj pastanoŭlena, kab na budučyniu źmienšyć hetkija dapłaty (premii) za vyvaz žyta, a zaaščadžanyja takim čynam hrošy praznačyć dla ŭspamohi pry vyvazie zahranicu **masła, śviniej** (bitych), **jajok, kurej, skaciny, baraniny, koniaŭ** a tak-ža raślin **stručkovych i hračychi.** Praviadzieńnie hetaj pastanovy ŭ žyćcio aznačaje patanieńnie na krajovym rynku žyta — znaŭcy kažuć, što žyta patanieje da 7—9 zł. za metr. centn. (q) — i padaražeńnie vyrabaŭ hadaŭlanych a tak-ža raślin stručkovych i hrečki.

Praktyčnyja vysnaŭki z hetaj pastanovy musiać być takija: žyta nie hadavać na prodaž a tolki na prakarmleńnie siamji. Pry stodziennym stałavańni bolš spažyvać žyta i mienš bulby, jakuju treba skormlivać śviniam i karovam. Chto haduje nie adnu a bolš karoŭ, toj musić tak razłažyć cialeńnia, kab małako moh dastaŭlać na rynak praz cely hod.

**Uznoŭ „łučacca".** Paru hadoŭ tamu nazad, u 1931-32 h., nie biaz nacisku z uradavych kruhoŭ, byli złučany polskija sialanskija i abšarnickija fachova-ziemlarobskija arhanizacyi ŭ adno „Centralne Towarzystwo Organizacyj i Kółek Rolniczych" (CTO i KR). Rabiłasia heta pad pahrozaj Uradu, što ŭstrymaje hrašovyja zapamohi, kali nia budzie abjadnańnia. Abjadnalisia. Ale rabota musić dalej nia kleicca, kali Rada hetaha samaha CTO i KR, na svaim pasiedžańni 28.V.35 h., uznoŭ apracavała plan novaha „abjadnańnia"; pajmienna, CTO i KR zaklikaje ŭsie polskija fachova-ziemlarobskija arhanizacyi złučycca ŭ adno ahulnaje *„Polskie Towarzystwo Rolnicze"*.

Inicyjatary novaha tavarystva dapuskajuć mahčymaść isnavańnia asobnych tavarystvaŭ, ale kab abšar ichniaj dziejnaści nia byŭ bolšy jak adno vajavodztva.

A heta niešta znača. Kali-ž pryniać pad uvahu tendencyi niadaŭniaha „abjednyvańnia" kooperatyŭnych sajuzaŭ, dy što z prapazycyjaj novaha „abjadnańnia" vystupajuć nadta blizkija, a to i zusim tyja samyja ludzi, što niadaŭna „abjednyvali" kooperacyju, dyk mety hetaha novaha „abjadnańnia" stanoviacca nadta... padazronyja.

Cikava heta „abjadnańnie" dla nas dziela taho, što nazvanyja tavarystvy majuć svaje addziely i na biełaruskich ziemlach, zajmajučysia tut nia hetulki ziemlarobstvam, kolki polonizacyjaj biełaruskaha nasielnictva.

Biełarusam patrebny tavarystvy biełaruskija!

# Сельская гаспадарка.

## Ці вы йшчэ не рахуеце?

На леташні наш заклік „Будзем рахаваць!“ (гл. „Самапомач“ № 6/34 г.) адазвалася шмат галасоў. Усе былі згодны ў тым, што рахункаводзтва ў гаспадарцы вельмі патрэбнае і карыснае. А не за гарамі той час — скажам гэта ад сябе — калі і ў земляробстве без рахункаводзтва ня будзе можна абыйсьціся, як сягоньня без яго ня можна сабе прадставіць найменшага хоць-бы, але пагаспадарску ведзенага прадпрыемства прамысловага ці гандлёвага.

Разумеюць гэта ўжо шмат хто з нашых земляробаў і ў гэтым вялікі поступ. Расходзяцца толькі пагляды аб тым, як дастасаваць рахункаводзтва да магчымасьцяў агульнай асьветы на нашай вёсцы; бо-ж каб магчы ўсё запісаць і то — запісаць правільна, і пасьля каб запісаным матар'ялам умела карыстацца, на ўсё гэта патрэбны пэўны ровень людзкой інтэлігенцыі. І то — такой інтэлігенцыі, якую цяжка мерыць пасьведчанямі, атэстатамі і навет дыплёмамі. І гэта найбольш пужае кожнага, хто з вядзеньнем рахункаводзтва йшчэ не абзнаёмлены.

З другога ўзноў боку патрэба вядзеньня рахункаводзтва становіцца штораз выразьнейшай. Скарбовыя ўлады ў нас, праўда, сягоньня йшчэ ня ставяць для земляробаў такіх вымаганьняў вядзеньня рахункаводзтва, як гэта павінны рабіць гандаль ці промысел. Але з цэлай пэўнасьцю можна сказаць, што блізкі ўжо той мамэнт, калі земляробскія падаткі і ў нас будуць абрахоўвацца не паводле шаблённага ліку дзесяцін, але паводле выказанага спосабам рахунковым грашовага абароту з рынкам.

Гэта адна выгода для тых, хто вядзе правільнае рахункаводзтва. Важная гэта рэч, бо мала што ёсьць так крыўдным, як аплачваньне незаслужаных падаткаў. Але ў вядзеньні рахункаводзтва ёсьць яшчэ адна рэч, многа важнейшая ад выгодаў падаткавых: ёсьць гэта ўпарадкаваньне самай гаспадаркі і наагул гаспадараваньне „з незавязанымі вачмі“. Гэткі спосаб гаспадараваньня вельмі выгодны дзеля таго, што пазваляе лёгка вырахаваць, што і калі ў гаспадарцы аплачваецца, а што прыносіць страты. Важна гэта заўсяды. Але сягоньня, калі капрысы рынку мяняюцца ня то што з кожным годам, але на год колькі і навет колькінаццаць разоў, сягоньня можа гэтыя капрысы адгадаць і да іх застасавацца толькі той, хто вядзе дакладныя гаспадарскія рахункі. Ніякія іншыя спосабы адгадаваньня патрэбаў рынку сягоньня не апраўдываюцца: астаецца толькі алавік у рэцэ практычнага рахункавода.

Першы крок усюды, кажуць, найцяжэйшы. У рахункаводзтве такім першым крокам ёсьць сьпісаньне ўсяе маемасьці гаспадара і ўсіх яго ных даўгоў у нейкі давольна выбраны дзень.*) Гэткім днём можа быць 1 студзень (Новы Год) і тагды гаспадарчы год пакрываецца з годам календарным. Апрача

*) Такое сьпісаньне йнакш называецца „інвэнтурай“.

## Jak sastavić inventuru?

Sastaŭleńnie inventury ci jnakš kažučy— śpisańnie ŭsiaje majemaści i daŭhoŭ haspadarki jość pieršym stupniom da viadzieńnia ŭsiakaha, u tym liku i ziemlarobskaha rachunkavodztva. Sastaŭlajecca jana dziela kantroli ŭsiaje majemaści i dziela taho, kab nahladna pabačyć źmieny ŭ paasobnych hrupach majemaści za peŭny čas, najčaściej — za hod. Inventura — heta kaściak (škialet) ci fundament, na jakim budujecca paśla ŭsia haspadarka.

Najbolš adpaviednaj paroj da śpisańnia inventury jość kaniec m-ca červienia i pačatak lipnia. Za kolki dzion prad 1 lipnia treba ŭžo śpisać i acanić usie składovyja časci haspadarki, jakija nie mianiajucca, napr.: usiakija hrunty, melioracyi, sady, lasy, budynki, usiakuju snaść. Na samy kancavy dzień červienia (30) i pieršy dzień lipnia treba pakidać tolki ŭpisańnie ŭsiakich zapasaŭ. Najmienšaj kryški haspadarki nia možna pry hetym pakinuć niaŭpisanaj.

Usia haspadarka pry sastaŭleńni inventury razhladajecca jak instytucyja zusim addzielnaja ad asoby samoha haspadara, a ŭsia majemaść takoj haspadarki padzielena byvaje na dźvie častki: *aktyŭ* i *pasyŭ*. U aktyŭ naležać usie haspadarskija składniki, jakija źjaŭlajucca ŭłasnaściu hetaje haspadarki, choć-by ŭ haspadarcy samoj i nie znachodzilisia; siudy naležać:

1. **usiakija hrunty**, jak vornyja, sienažaci, paśbiščy, lasy, sady, stavy i vaziory, placy, usiakija melioracyjnyja ŭstrojstvy i ŭrešcie roznyja niaŭžytki;

2. **budynki** — chata, chlavy, humny, śvirny, a tak ža masty, mury, studni, bruki, hnajoŭni i h. d.;

3) **žyvy inventar** — koni, karovy, śvini, aviečki, ptuški, pčoły — słovam usia žyvioła;

4. **niažyvy inventar** — usiakija haspadarskija mašyny i haspadarskaja snaść, jak upraž, sani, kalosy, hrabli, capy, viły i h. d. Siudy tak-ža naležać mašyny i ŭsia snaść pabočnych zaniaćciaŭ, jak harodnictva, rybactva, pčalarstva, a tak-ža ŭsiakaha rodu zapasy, jak

дня 1-га студня, такім днём можа быць яшчэ дзень 1 красавіка, або 23 красавіка (Юр'я).

У сельскай гаспадарцы дзень 1 студня для сьпісаваньня маемасьці няпрыдатны дзеля таго, што ў гэту пару ў гаспадарцы ёсьць шмат запасаў, якія трэба было б лічыць, важыць і наагул рахаваць. Больш прыдатнай парой для сьпісаваньня сельска-гаспадарчай маемасьці ёсьць дні вясьняныя (1 ці 23 красавік); і яшчэ бадай выгаднейшым днём на гэта ёсьць дзень 1-га ліпня: гэта якраз палавіна календарнага году, а запасы збожжа і пашы бываюць у гэту пару найменшымі і таму найлягчэйшымі да перарахаваньня.

Канчаючы гэтыя разважаньні ня можна ўстрымацца ад шчырага пажаданьня, каб нашы гаспадары-земляробы як найбольш зацікавіліся дабрадзейнасьцю правідловага рахункаводзтва. Хто толькі пісаць умееш — бярыся за алавік і пішы!

Мы з свайго боку пастараемся ў наступных нумарох „Самапомачы" падаваць практычныя рады аб земляробскім рахункаводзтве.

А каб справу не адкладаць, у гэтым ужо нумары зьмяшчаем стацьцю: „Jak sastavić inventuru" да каторай і адсылаем усіх зацікаўленых.



## Да падпішчыкаў „Самапомачы"

**Да гэтага нумару чалучаем бляикеты П.К.О. (№ 180.485—інж. Клімовіч), якімі просім аднавіць падпіску на другое паўгодзьдзе.**

*Адміністрацыя*

## Хлеўны гмой — гэта падстава.

Як ні стараецца новачасны чалавек удасканаліць сваю гаспадарку, робячы яе незалежнай ад сілаў прыроды, аднак для гнаеньня зямлі нічога лепшага, як хлеўны гной, ня можа знайсьці. І сучасная навука занята толькі падшуканьнем спосабаў правільнага перахаваньня гэтага гною, каб усьцерагчыся стратаў тых сучастак, якія ў гнаі бываюць найважнейшымі. У ацэньваньні гэткіх спосабаў перахоўваньня людзі часта розьняцца між сабой; але кожны згаджаецца з тым, што добра ўтрыманы хлеўны гной гэта падстава гнаеньня глебы.

У чым-жа гэта вартасьць хлеўнага гною?

Гэта вартасьць падвойная: хлеўны гной мае ў сабе ўсе галоўныя кармовыя сучасткі для расьліны і акрамя таго сама арганічная маса гэтага гною ёсьць спажываю для бязлікага мноства бактэрый, якія ажыўляюць глебу і робяць яе ўраджайнай. Агулам узята, хлеўны гной складаецца з дзьвюх частак: густой і плыўкай. Склад кожнай з гэтых частак розьніцца між сабой: азот — галоўная сучастка хлеўнага гною—знаходзіцца ў роўнай меры як у густым, так і ў плыўкім (мачы) гнаі; поташу ёсьць больш у мачы, а фосфару найбольш у густым кале.

Але гнойная вартасьць гною залежа йшчэ і ад таго, ад якой жывёлы гэты гной паходзе, як старая гэта жывёла і чым яна была кормлена; а ў дадатку якасьць гною залежа йшчэ ад падсьцілкі і ад спосабу прыгатаваньня самага гною. Разгледзім гэта па парадку.

ćviaki, žaleza, štučnyja hani, zbožža, vapna, dreva i h. p.

Da aktyvu taksama naležać hatoŭka hrošaŭ, veksali na hrošy pazyčanyja kamu inšamu, a tak-ža ŭsiakija inšyja cennyja papiery,

Da inventarnaj majemaści sielskaj haspadarki **nie naležać** novyja zapasy sabranyja z pola prad 1 lipniem siol. hodu. Asabliva-ž treba pamiatać, što siudy nie naležać usie pradmiety pryvatnaj chatniaj haspadarki, jak łyžki, miski, harški, vopratka, abutak i ŭsio inšaje. što nia słužyć biespasiaredna zarabkovaj pracy ŭ haspadarcy.

Ale mała hetyja składovyja sučastki haspadarki paśpisavać: ich treba acanić pavodle cen najbližejšaha rynku ŭ dzień śpisańnia inventury.

Cana ziamli aznačajecca pavodle cany płačanaj za jaje ŭ vakolicy. Pry hetym asobna ceniacca hrunty vornyja, asobna sienažaci, paśbiščy, harody, stavy, lasy, sady i h. d. Usiakija budynki staršyja ceniacca krychu nižej, čym heta aznačana ŭ strachoŭcy. Budynki novyja i melioracyi ceniacca pavodle cany, jakuju treba było zapłacić za hetyja rečy pry ichnym budavańni. Usiaki žyvy inventar (žyvioła) i miortvy aceńvajecca pavodle cany ichnaha zakupu. Zapasy pašy i zbožža aceńvajucca pavodle rynačnaj cany, źmianšajučy jaje koštami adstaŭki na rynak.

Ale i heta jšče nia ŭsio. Raz ustanoŭlenaja cana haspadarki, jak całaści, mianiajecca z kožnym hodam. Adna tolki ziamla nia tracić svajej vartaści. Usia rešta składovych sučastak haspadarki znošyvajecca: adny chutčej, inšyja — pavalniej. Canu hetaj „znošyvanaj" častki treba pry štohodnim sastaŭlańni inventury adymać ad cany papiaredniaj: nazyvajecca heta adpisvańniem abo amortyzacyjaj.

Vyšynia amortyzacyi roznych pradmietaŭ jość roznaj: tyja z pradmietaŭ, jakija znošyvajucca chutčej, musiać mieć vyšejšuju i amortyzacyju, —i naadvarot. Naahuł vyšynia amortyzacyjnaj častki (staŭki) abličajecca tak, što cana dadzienaha pradmietu dzielicca praz lik hadoŭ, jaki hety pradmiet zdolny vytrymać pry rehularnym jaho ŭžyvańni.

Ziamla, jak užo skazana, nie pavinna amor-

Найгусьцейшым і найбагацейшым у складовыя сучасткі ёсьць гной конскі; усьлед за ім ідзе гной авечы і быдлячы.

Маладая жывёла выкарыстоўвае ўвесь корм і таму ейны гной менш вартасны ад гною жывёлы дарослай, якая пераводзіць у гной больш вартасных сучастак.—Нешта падобнае ёсьць з гноем жывёлы худой і жывёлы кормленай на жыр. Жывёла худая, таксама як маладая, выбірае з пашы ўсё прыгоднае і выкідае з калам толькі бязвартасныя, у сэнсе спажыўнасьці, сучасткі. Інакш у жывёлы кормленай на жыр: гэткая жывёла выбірае з пашы толькі частку кармовых складнікаў, а ўсю рэшту пераводзіць у гной.

Падсьцілка таксама мае вельмі вялікі ўплыў на якасьць выпрадукаванага гною. Задачай падсьцілкі ёсьць утрымаць (вязаць) у гнаі ўсе плыўкія сучасткі гною, каб яны не ўцяклі ані ў паветра (азот), ані выпаласкаліся ў зямлю. Найлепш гэтым вымогам адпавядае падсьцілка з тарпавіны (торфу) і з саломы. Каб гной даваўся шчыльней укладацца — аб гэтым мова будзе далей — салому на падсьцілку трэба даваць ня цэлую, але парэзаную на доўгую (15—20 см.) сечку.

Асаблівасьцяй хлеўнага гною ёсьць тое, што ў сьвежым стане яго даваць у глебу ня можна: гэткі гной ня толькі не памагае, але навет і шкодзіць. Найлепшы паводле свайго складу хлеўны гной, прад тым як прыйсьці на поле, павінен перапрэць, што трывае больш-менш два-тры месяцы. Пераправаньне гною ёсьць вельмі важным мамэнтам і на гэта гаспадар павінен зьвяртаць пільную ўвагу: благі гной можна пераправаньнем паправіць і наадварот — найлепшы можа сапсавацца.

Ад чаго гэта залежа?

У хлеўным гнаі ёсьць вельмі многа дробных жыватвораў, бактэрыяў. Адны з іх для чалавека карысныя, а другія — шкодныя. Шкодзяць-жа гэтыя апошнія бактэрыі тым, што раскладаюць складаныя хэмічныя спалучэньні гною на складнікі простыя, з каторых адны выпаласківаюцца ў зямлю (поташ, фосфар), а другія выпароўваюцца ў паветра (азот). Гэтыя шкодныя бактэрыі патрабуюць для свайго жыцьця паветра і таму жывуць і разьвіваюцца яны ў такім гнаі, які зложаны ня шчыльна, а знача — няўбіты. Згэтуль навука, што калі гной добра ўбіць, дык у ім ня будзе паветра, якім дыхаюць бактэрыі і самыя бактэрыі ня толькі ня будуць рабіць сваей шкоднай работы, але яны навет пагінуць. Практычны выснавак згэтуль такі: гной ня можна трымаць на растрэсенай кучы, але заўсяды трэба яго добра ўбіваць, сьціскаць.

Апрача таго, да нядаўна пашыраны быў пагляд, што найлепш трымаць асобна гной густы (з падсьцілкай) і асобна плыўкі (мачу). Сягоньня ведама аднак, што мача, трыманая разам з гноем густым, вельмі добра перашкаджае бактэрыям у іхнай разбурываючай працы.

Дзеля гэтага ў нашых клімэтычных і гаспадарскіх варунках гной павінен трымацца ў хлявох ці гнаярнях глыбокіх і з непрапускным дном (гліна або мур на ц э м э н т а в а й заправе). Акрамя таго трэба агранічыць плошчу стычнасьці паветра з гноем: сам гной найлепш складаць у месцы зацененым (у хляве, ці крытай гнаярні), а апрача таго зложаны гной трэба добра ўбіць і прыкрыць з усіх бакоў пластам зямлі, або саламянай матай.

---

tyzavacca zusim. Budynki muravanyja, kali ich u čas apraŭlać, mohuć vytrymać 50—75 hadoŭ i tamu vvšynia amortyzacyjnaj staŭki ŭ ich byvaje 1.5—2.0 prac. ad novavartaści. Dzieraŭlanyja budynki vytrymoŭvujuć mienš i tamu amortyzacyjnaja staŭka na ich pavinna być vyšejšaja. Pamieškalnyja budynki (chata) vymahajuć amortyzacyi mienšaj (2 prac.), a inventarskija (chlavy, humny) — bolšaj — (3 prac.).

Melioracyjnyja ŭstrojstvy (dreny) tryvajuć pryblizna 35—50 hadoŭ i tamu amortyzacyjnaja staŭka ŭ ich byvaje taksama 2—3 prac. Napr. košt zdrenavańnia jakoj-niebudź niŭki pola vynosić 100 zł.; tady pa 1-šym hodzie jejnaja vartaść užo vyrazicca (pry 2 prac.) 98 zł., pa 2-im hodzie—96 zł., pa 3-cim 94 zł. i h. d.

Usiakija bolšyja mašyny ŭ ziemlarobstvie, jak małatarnia, siačkarnia i im pad. amortyzujucca štohod u 10 prac., h. zn. z ichnaj vartaści adpisvajecca štohod adna dziesiataja častka novavartaści. — Mienšyja mašyny i haspadarskaja snaść, jak płuhi, barony, panarady, sani, upraž i inš. štohod nie amortyzujucca, bo dakuplivańniem vymiennych častak utrymoŭvujucca jany daŭžejšy čas.

Tamu až da času poŭnaha vyŭžytkavańnia vartaść ichnuju aznačajem u inventury pałavinnaj canoj, jakaja była za ich zapłačana pry novazakupie.

Małady žyvy inventar: koni, skacina da 8 hadoŭ, aviečki i švini — da 3—4 hadoŭ, a tak-ža małady sad i les — nie amortyzujucca, bo da peŭnaha času cana ichniaja nie apadaje, a padyjmajecca.

Usia hetak śpisanaja majemaść haspadarki jość jejnym aktyvam, znača — naležyć da jaje pravam ułasnaści.

Dalej, treba śpisać usie daŭhi i zabaviazańni haspadarki i ich taksama razam źličyć pavodle hrašovaj vartaści. Hetak atrymajem pasyŭ haspadarki, inakš — sumu, jakuju haspadarka vinavata kamu inšamu.

Adyjmajučy ŭrešcie ad sumy aktyvu sumu pasyvu, atrymajem čystuju vartaść samaje haspadarki. Raŭnujučy hetu sumu z takoj sumaj papiaredniaha hodu, možam bačyć, ci my ŭ rachunkovym hodzie što-niebudź pryhaspadaryli, ci stracili.

A. K.

## Баранема быдла ад гілёў.

Хто-ж ня знае, як дакучлівымі патрапяць быць гілі і розныя іншыя авадні ў сонечны летні дзень! Ня кожны аднак ведае, што за „гіляваньне" жывёлы плаціць сам гаспадар аж тры разы: 1. гілямі заганяная карова дае значна менш малака; 2. скура гэткай каровы і наагул жывёлы бывае падзюраўлена дасьпяваючымі аваднямі, ношанымі ў гузох, якія называюцца вуграмі; 3. урэшце, мяса гэткай жывёлы таксама шмат траціць на сваёй вартасьці.

Патрэба абароны жывёлы ад аваднёў ёсьць канешная. Для гэтага аднак трэба ведаць, як гіль разьвіваецца і чым ён шкодны.

Разьвіваецца гіль (авадзень) з яечак, якія ён складае ў летнія месяцы на скуры жывёлы. З гэтых яечак вырастае сьпелы авадзень. Але не зараз. Паложаныя на скуру яечкі жывёла звычайна зьлізвае і ў сярэдзіне ўжо з яечка спачатку выклюваецца малы зародак авадня, каторы не сядзіць на месцы, але пройдзе ўсімі страўнымі органамі жывёлы і пры канцы вернецца ўзноў пад скуру. Тут ён асядае на хрыбце і па бакох ў асобных гнёздах, якія агулам называюцца вуграмі. Калі нічога не перашкодзе, дык авадзень у вугры цалком дасьпее і, пракалоўшы скуру, вывальваецца на зямлю, каб далей дакучаць тэй скаціне, сокамі якой карміўся праз цэлы год. І так увакруг.

Вось-жа з паказанага спосабу жыцьця і разьвіцьця авадня можна дадумацца, якімі спосабамі трэба яго нішчыць.

Сягоньня людзі знаюць шмат спосабаў нішчэньня аваднёў. Але мы затрымаемся тут толькі над тымі з іх, якія можна стасаваць у гаспадарцы, нічога да гэтага ня купляючы. Гэткіх спосабаў ёсьць два.

Першы спосаб — гэта недапусканьне, каб з яечка выклюнуўся навет першы зародак авадня. Інакш кажучы, складзеныя ў скуру жывёлы яечкі тым ці іншым спосабам з скуры абчышчаюцца і гінуць. Дзеля гэтага праз цэлае лета, калі авадні дакучаюць жывёле, трэба штодзень скуру ейную выціраць — а йшчэ лепш — змываць — вехцем чыстай саломы, ці навет шчоткай. Гэты спосаб, калі толькі ў пару і ўмела яго стасаваць, бывае найтанейшы і найлепшы. Стасаваньне яго аднак дае карысьць аж на наступны год.

Інакш узноў трэба паступаць, калі яечкі авадня ў пару ня былі паськівданы і пад скурай жывёлы ўжо зьявіліся гузы — вугры. У гэткім выпадку не астаецца нічога іншага, як толькі недапусьціць, каб з вугра выклюнуўся сьпелы авадзень. Дзеля гэтага кожную раніцу трэба выціскаць вугры пальцамі, дастаючы стуль аваднёвага чарвяка і нішчыць яго. Калі вугор яшчэ ня „сьпелы", тады трэба яго пракалоць тонкім шылам і выціснуць стуль расьцёртага, калі не ўдаецца дастаць цэлага аваднёвага рабака. Даўжэй практыкуючыся можна выцягваць авадзіных рабакоў пры помачы шылца, якім робяцца анталяжы (каруны) і абцужкоў з карбаванымі берагамі.

Пералічаныя тут спосабы нішчэньня аваднёў не вымагаюць ніякіх грашовых выдаткаў і таму стасаваць іх можа кожны, хто толькі запраўды стараецца аб здароўе жывёлы і аб свой собскі гаспадарскі інтэрас.

**В. В.**

---

Пры месцы трэба сказаць, што ў нашых кліматычных і гаспадарскіх варунках перахоўваньне гною ў хляве пад жывёлай ёсьць найбольш адпаведным. Трэба толькі сьцерагчыся, каб ані ў хлеў не залівалася дажджавая вада, ані з хлява не выцякала мача, бо ў абодвух выпадках гной выпаласкаваецца.

Аб ужываньні гною на полі скажам наступным разам. **С. Я.**

---

## Яшчэ ў справе абароны ад мух і гілёў.

Ужо пасьля набору стацьці, „Баранема быдла ад гілёў," знаходзім у №12 „Сіль. Господ." вельмі цікавы спосаб змаганьня з мухамі хатнімі спосабамі. З спосабамі гэтымі хочам пазнаёміць і нашых Паважаных Чытачоў.

Рэд.

Разгледзьма асобна: 1. сродкі, якія не пазваляюць мухам і авадням садзіцца на жывёлу, 2. спосабы і сродкі проці мух у стайнях і хлявох і 3. нішчэньне зародкаў мух у гнаі.

**1. Сродкі, якія не пазваляюць мухам і аваднямн садзіцца на жывёлу.**

Добрым сродкам ёсьць націраньне поўсьці жывёлы моцным адварам: а) зялёных канапель; б) сасновых шышак; в) лісьця дыні (cucurbita Pepo); г) лісьця ляшчыны і д) лісьця валоскіх гарэхаў. Адвар з лісьця валоскіх гарэхаў найбольш ужываецца ў Англіі і Францыі для абароны коняў ня толькі ад мухаў і аваднёў, але й ад кляшчоў.

**2. Спосабы і сродкі проціў мух у стайнях і хлявох.**

Нямецкае сельска-гаспадарскае Т-ва, на падставе спроб, зробленых у розных гаспадароў — даручыла гэткія спосабы і сродкі для нішчэньня мух у стайнях і хлявох:

а) замазваньне шкляных шыб вапенным малаком з сінькаю; паказваецца, што мухі ня любяць мроку й звычайна вылятаюць з гэткіх будынкаў праз колькі дзён;

б) зробленьне пад самай страхой сільнай цягі (скразьняку);

в) абмазваньне сьцен газай (нафтай) або карболінэумам. Але гэтага сродку ня

# Шкоднікі нашых садоў і змаганьне з імі.

(*Працяг в № 5*)

**Матылі** (*Lepidoptera*)

**Зімчук лістаед**(*Hibernia defoliaria—L.*) — так-жа шкодны, выступаючы часта ў вялікіх колькасьцях. Спосаб жыцьця вельмі падобны да жыцьця гатунку папярэдняга, таксама і спосабы барацьбы; толькі ліпкія паяскі на яго трэба закладаць у другой палавіне верасьня.

Пладоўка яблычная (*Laspeyresia pomonella L.*) — выклікае г. зв. „чарвівасьць" пладоў — яблыкаў і йгруш. З зложаных летам яечак выклёўваюцца вусенічкі і ўгрызаюцца ў нутро пладоў яблынь і йгруш, робячы ў іх ходы. Вырасшыя вусеніцы робяць сабе у шчылінах кары белыя вопрадні, дзе і зімуюць.

*Спосабы барацьбы* з гэтымі двума гатункамі наступныя: 1) сскробываньне і паленьне каравіны з пнёў і сукоў дрэў перад вясною, 2) абпырсківаньне кароны дрэў парыжскай зеленяй, пасьля таго, як ападуць кветкавыя пялёсткі, 3) закладаньне перавёслаў з саломы калі ўжо пачнуць ападаць першыя рабачлівыя яблыкі ці йгрушкі. Выбіраць пасьля з перавёслаў вусеніцы робячыя вопрадні, і нішчыць.

Яблынная моль, (*Hyponomeuta malinella—Zell*) —распаўсюджаны шкоднік у нашых садох. У жніўні выклёўваюцца з зложаных яечак вусенічкі, каторыя пасьля перазімаваньня точаць лісты і іх згрызаюць. Жыруючы разам твораць павучынныя гнёзды з расьцягненых нітачак паміж лістамі, дзе яны і перавяртаюцца ў пачваркі.

*Нішчэньне*: 1) абразаць і паліць галінкі з гнёздамі, 2) абпырсківаць дрэвы моцнай струёй парыжскай зелені ў часе жыраваньня (1 грам зелені і 5 грамаў вапны на 1 літр вады).

**Калечнік ліставы** (*Simaethis pariana —Clerck*) вусеніцы робяць часам вельмі паважныя шкоды на маладых яблынях, бо калечаць лісты, выядаючы з іх зялёныя часткі.

*Барацьба*: 1) абпырсківаньне дрэваў парыжскай зеленяй у пачатках траўня і ў пачатках ліпня, 2) страсаньне вусеніц з дрэваў у часе іх жыраваньня, закладаючы ў гэтым-жа часе на пні дрэў ліпкія паяскі. Апаўшыя вусеніцы, хочачы ўзьлезьці ўзноў на дрэва, будуць ліпнуць да паяскоў і гінуць.

**Жукі** (*Coleoptera*).

Жукі маюць дзьве пары крылак. Губны апарат годны да грызеньня і жуцьця. Поўная перамена. Характэрнай іх асаблівасьцяй ёсьць тое, што маюць цьвёрдыя крылкі-пакрывы (хітыновыя), каторыя ня служаць ім да лётаньня, але ахраняюць другую пару крылак балонкавых, пры помачы каторых лётаюць жукі. З іх вельмі шкоднымі ў нас у садох зьяўляюцца:

Яблынны даўганосік (*Authonomus pomorum—L.*) вельмі распаўсюджаны, адзін з найгразьнейшых шкоднікаў яблыні. Зімуе ён звычайна ў шчэлінах кары дрэваў. Вясною самка складае яечкі ў пучкі яблыні, радзей— ігруш. Лярвы, выкляваўшыся, зьядаюць завязкі пучкоў, а пасьля перавяртаюцца тамака ў пачваркі. Вырaслы жучок жывіцца лістамі яблыні.

*Барацьба*: 1) перад разьвіцьцём зімовых пучкоў, рана або ў пахмурныя дні, абтрасаць дрэва над разасланымі на зямлі посьцелкамі. Апаўшыя жукі — нішчыць, 2) абпырсківаць дрэва вясною або ўвосені вапенным малаком,*) 3) у другой палавіне лета закладаць на дрэва перавёслы з саломы, паперы і г. п.

Маёвы хрушч (*Melolontha melolontha —L.*)—нішчыць будучы лярвай— карэньні пладавых дрэваў, а як вырaслы авадзень—абядае лісьцё.

Бліжэй аб яго шкодах і спосабах змаганьня было напісана ў № 4 „Самапомачы", у стацьці „Маёвы хрушч",**) і туды адсылаю чытачоў.

---

*) Як прыгатаваць гэтую плыўкасьць, глядзі ў першай часьці гэтага артыкулу, зьмешчанага ў № 2—3, бач. 19, у часьці „Спосабы змаганьня з мошкамі".

**) Або глядзі № 2 „Беларускай Земляробскай Бібліятэкі": М. Караленка — Маёвы хрушч і спосабы змаганьня з ім. Вільня, 1935 г.

---

можна ўжываць там, дзе стаяць дойныя каровы, бо гэты запах пападае ў малако.

**3. Нішчэньне зародкаў мух у хлеўным гнаі.**

Як ведама, мухі вельмі любяць хлеўны гной і ў ім адкладаюць свае яечкі. Адна муха кладзе ад 70 да 90 яечак. Цэлы працэс разьвіцьця яечка трывае каля 4-х тыдняў. Дзеля гэтага за адно лета выводзіцца ня менш 4-х пакаленьняў мух.

Калі гной так ці йнакш консэрвуецца,то, як сьцьверджана, зародкі мух пры гэтым гінуць. Гэтыя абаронныя сродкі процi мух вельмі добрыя.

Вельмі добра нішчаць зародкі мух паташавыя солі, асабліва каініт. Да таго-ж каініт вельмі добра абараняе хлеўны гной ад страт.

Калі хлеўны гной перахоўвуецца пад нагамі жывёлы, дык кожны дзень трэба гэты гной пасыпаць каінітам, даючы поўкілёграма на адну сьпелую штуку жывёлы. — Добра таксама памагае пасыпаньне каінітам гною на гнайнікох. (—)

# Як ратаваць каня ад колькі?

Калі здарацца ў каня колькі (мышкі), дык трэба з ім паступаць гэтак:

1. Ня можна пазваляць, каб конь кідаўся вобзем, бо ад гэтага можа лопнуць жалудак (трыбух) або кішкі;

2. замест гэтага трэба хворага каня роўна і памалу вадзіць па роўным месцы датуль, аж пакуль не супакояцца болі;

3. пастарацца ўсадзіць руку ў дольны канец адбытнай кішкі і выбраць стуль кал;

4. выпусьціць моч пры помачы катэтэру або націсканьнем пальцамі із стараны кішок;

5. жывот (бруха) з абедзьвюх старон адначасна націраць тэрпэнтынай праз 20 мінут і пасьля акруціць ад споду цёплай гунькай;

6. пры сільных болях лекар-вэтэрынар дае ў апарожненую адбытную кішку леватыву з раствору 60 грам *chloratum hydratum* у 6-цёх шклянках летняй вады і пасьля праз 10 мінут моцна прыцiскае адбытныя воргаsuccesfully; часам то-ж дае пад скуру на шыі ўкол з морфінай;

7. у сярэдзіну даецца 1 бутэлька ляннога алею з дадаткам 12 капляў кротонавага алею і 1 лыжкі амоньяку або этэру;

8. гляўбэрская соль і калёмэль дзеюць вельмі павольна і таму іх стасаваць тут ня можна;

9. калі міма ўсё гэта прачышчэньне не наступае, дык трэба даць леватыву звычайную: на 4 літры летняй мыдлянай вады—поўшклянкі гліцэрыны;

10. урэшце, калі ўсё гэта не памагае, лекар можа даць на шыі пад скуру ўкол з поўпорцыяй (поўампулкай) арэколіны, а па 20 мінутах дае другую палову.

*з. а.*

---

Шмат яшчэ ёсьць шкоднікаў і то ня толькі з авадзінага сьвету, але і з іншых грамад зьвяроў, як шмат ёсьць і хваробаў распаўсюджаных у нашых садох і іншых расьлінных культурах. Шмат заняло б месца аднае толькі іх вылічэньне, ня кажучы ўжо аб іх апісаньні і паданьні спосабаў бараціьбы. Дзеля таго мы агранічыліся пакульшто да паданьня толькі найбольш важных гатункаў і то толькі шкодных у садаводзтве.

Паасобныя шкоднікі і хваробы садоў, варыва, збожжа, сьвірнаў і г. д. апішам у далейшых нумарох „Самапомачы“.

**Мікалай Караленка.**



# Безалькагольныя напіткі на рабочы час.

Чыстая вада гасіць смагу толькі на кароткі час. Дамешкі да вады, прыгатаваныя хвабрычным спосабам, бываюць дарагія; а танейшыя дамешкі шкодны для здароўя. Трэба дзеля таго пашукаць такіх напіткаў і дамешак, якія былі-б здаровымі, а прынамся ня шкоднымі для здароўя і прыступнымі па сваёй цане. Яшчэ лепш будзе, калі напіткі гэткія навучымся рабіць у сваей собскай гаспадарцы. Матар'ялам да гэтага могуць быць: жытні разовы хлеб, садовыя ападкі, ігрушкі-дзічкі, чорныя парэчкі і ўрэшце рабарбар. Разгледзім іх коратка і папарадку.

Добры **хлебны квас** можна прыгатаваць гэтак: 2 кілёграмы разовага хлеба рэжуцца спачатку на тонкія ськібачкі, якія пасьля разразаюцца накрыж, атрыманыя гэтак дробныя „косткі“ (кубікі“) хлеба моцна сушацца, аж „румяняцца“ і пасьля таўкуцца на парашок, ссыпаюцца ў чыстую судзіну, напр. у вядзерца і заліваюцца кіпячай вадой (каля 15 літраў, або 4 гарцы). Калі залітая вада крыху прыстыне, дадаецца да яе паўтары шклянкі цукру і 3 дэка (30 грам) добрых сьвежых дрожджаў. Гэтак рашчынены квас ставіцца ў цяпле. Праз 12 гадзін мешаніна пачынае бушаваць, а на версе творацца шумавіны (кажух), каторыя трэба асьцярожна зьбіраць.

Калі бушаваньне кончыцца, нясьпелы квас разьліваюць у чыстыя высушаныя бутэлькі, у каторыя прад тым укідваюцца па тры вымытыя разынкі. Напоўненыя бутэлькі закаркоўуюць, а каб газы гэтага корку ня выперлі, яго прывязваюць шнурком ці дротам. Самыя бутэлькі тады выносяцца ў месца сьцюдзёнае (склеп, варыўня) і кладуцца ляжма. Квас дасьпявае па 3—4 днёх. За гадзіну — дзьве прад піцьцём такі квас ставіцца на лёд. Калі лядоўні ў гаспадарцы няма, тады бутэлькі з квасам састаўляюцца ў чыстае вядро, якое на моцнай вяроўцы спускаецца ў студню (калодзезь): квас тады дакладна ахалодзіцца.

Нясьпелыя **ападкі** (яблыкі й ігрушкі) з саду гэта таксама добры матар'ял на квас. Сабраныя ападкі перабіраюцца, выбіраюцца толькі штукі здаровыя, ачышчаюцца, разрэзваюцца на чатыры часьці кожны, ссыпаюцца ў чысты бачонак, або ў эмальяванае вядзерца і заліваюцца вадой, пры гэтым вады даецца ў два разы больш як ападкаў. Залітыя гэтак ападкі стаўляюцца ў цёплым месцы на два дні, пасьля жыжку трэба працадзіць праз палатняную цадзілку, засаладзіць, колькі хто любіць, разьліць у бутэлькі і закаркаваць, як пры квасе хлебным. Гэткія напоўненыя бутэлькі праз тры дні хай пастаяць на сонцы (напр. на акне), пасьля на тыдзень іх выносяць у склеп і квас гатоў.

З дзікіх польных **ігрушак** (дзічак) можна прыгатаваць напітак у верасьні аднаго году і датрымаць да рабочага часу ў наступным годзе. Здаровыя, але неперасьпелыя йгрушкі трэба спачатку добра апаласкаць, ссыпаць у бачонак так, каб занялі ў ёй тры чвёрткі прастору, заліць да паўна вадой, накрыць дэнкам, прыціснуць каменем і вынесьці ў склеп. Па трох месяцах напітак гатовы; цяпер разьліваецца ён у бутэлькі, у каторых можа пралежыць і некалькі месяцаў. Самыя йгрушкі могуць быць добрым прысмакам.

З **чорных парэчак** напітак прыгатаўляецца гэтак: кілёграм сьпелых парэчак заліваецца 10-цю літрамі вады, разварваецца, цэдзіцца праз густую палатняную цадзілку і выціскаецца. У атрыманай цечы распускаецца 60 дэка (паўтара фунта) цукру і 5 грам дрожджаў. Усё гэта дакладна мяшаецца і зьліваецца ў бутэлькі, у каторыя прад тым было ўложана па 2—3 разынкі. Бутэлькі гэткія трымаюцца адзін дзень у цяпле, а пасьля выносяцца на два дні ў склеп і — гатова.

З **рабарбару** прыгатаўляецца сок, які дадаецца да вады. Поўкілёграма рабарбару абіраецца з „скуркі“, рэжацца на кускі, заліваецца літрам вады, дадаецца паўчвёрткі кілёграма (12 дэка) цукру і варыцца з прыданьнем цытрынавай скуркі. Пераваная цеча цэдзіцца, старанна зьліваецца ў бутэлькі і выносіцца ў сьцюдзёнае месца.

Пры канцы трэба заўважыць, што ня можна ніякіх напіткаў шмат піць за раз, „адным духам“: гэтак смага не праганяецца, а сэрца змушаецца без патрэбы да сільнай працы. Трэба дзеля таго піць па менш, але часьцей. С. С.

## Што есьці ў цёплую пару.

У цёплую пару зьмяняецца запатрэбаваньне арганізму, а то таму, што: 1. цёпла, 2. чалавек праз скуру шмат траціць плынаў (пацее) і 3. мае аслаблены (ад цяпла) ежапераварны апарат.

Дзеля гэтых прычын, ежа наша ў цёплую пару павінна быць мяшанай; павінна мець многа плынаў і вугляводаў, сярэдне бялка, а найменш — тлушчу (туку). Тлушч ёсьць добры ў зімную пару, бо ён дае шмат цяпла. Але летам цяпло ёсьць лішнім, а труднастраўны тлушч лёгка можа расстроіць укволены ежапераварны апарат.

Практычна кажучы, летам трэба есьці: агародніну, фрукты, ягады, малако, масла, сыр, мяса (найлепш белае), а найменш саланіну. Само сабой разумеецца, што бульба і хлеб ёсьць заўсяды неабходнымі.

Абс. мэд. Я. М.

**Ф. Акінчыц.** *У парадку дыскусіі*

## Аграрна - коопэратыўная палітыка будучыні.

### 3. Галоўныя мэты ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі.

Што сучасная сялянская гаспадарка мусіць, пры існуючым стане рэчаў, дайсьці да канчальнай руіны — аб гэтым няма ў нас ніякага сумлеву.

Пытаньне толькі — які-ж аграрны лад (устрой) павінен прыйсьці на зьмену існуючаму, каб у ім ня было тых недахопаў, якія мы наглядаем цяпер? Гэткае-ж пытаньне паўстала і ў Савецкім Саюзе, як толькі камуністы апынуліся перад канешнасьцю зрэалізаваньня сваёй аграрнай праграмы.

Першы, хто сур'ёзна гэтым занепакоіўся, быў Ленін, каторы даў агульніковую формулу для перабудовы ўсяго соцыяльна-эканамічнага ладу: „камунізм — кажа ён — гэта ёсьць савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсей краіны“, пры гэтым электрыфікацыя, на думку Леніна, павінна ахапіць і земляробства, каторае трэба „перавесьці на новую тэхнічную базу сучаснага буйнага вырабу, а гэткай базаю ёсьць толькі электрыфікацыя“. (Ленін: „О строительстве социалистического хозяйства“ — бач. 68).

Справа рэканструкцыі сельскай гаспадаркі аказалася, аднак, куды складнейшаю, чым аб гэтым думаў навет такі чалавек, як Ленін, каторы зьвярнуў увагу толькі на тэхнічны яе бок, абмінуўшы момэнты псыхолёгічны і грамадзкі.

Новы аграрна-коопэратыўны лад з вонкавага боку павінен характэрызавацца запраўды шырокім застасаваньнем розных тэхнічных удасканаленьняў, якія магчымы толькі пры ўвядзеньні арцельна-коопэратыўных гаспадарак.

На наш пагляд рэформу сельскай гаспадаркі наўперад трэба праводзіць плянова, а гэтым самым і паступова. Ня можна нічога зрабіць карыснага, разбурыўшы ўсё „за адным махам“, а потым пачынаючы гвалтам накідаць насельніцтву новыя гаспадарчыя формы, каторых яно дакладна навет не разумее. Гэткія рэформы аграрнага ладу павінны быць расьцягнены на даўжэйшы час, у залежнасьці ад ступені культурнай і грамадзкай сьпеласьці народу.

Дзеля таго, што тэхнічныя ўдасканаленьні, без якіх немагчыма вясьці рацыянальную сельскую гаспадарку, можна застасаваць толькі ў буйнейшых гаспадарчых адзінках — трэба ў першую чаргу прыступіць да аб'яднаньня карлаватых і дробных гаспадарак і тым самым да ліквідацыі

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—2.

дацыі іхнага самастойнага існаваньня, як нерацыянальнага з пункту гледжаньня соцыяльна-эканамічнага і гаспадарчага. Гэта магчыма зьдзейсьніць не дэкрэтамі ці распараджэньнямі, а пляновым скоопэраваньнем паасобных галін гаспадаркі, як напр. малачарства, жывёлагадоўля і інш. Як завяршэньне гэткага працэсу быў-бы пераход індывідуальных гаспадарак у сельска-гаспадарчыя сябрыны (арцелі), дзе або ўся гаспадарка ў суцэльнасьці, або значная частка сельска-гаспадарчых працэсаў вяліся-б на коопэратыўных падставах.

Зразумела, што гэткія гаспадарчыя абяднаньні павінны быць такога харахтару і разьмеру, каб яны былі самавыстарчальнымі і каб маглі застасаваць у сябе розныя тэхнічныя ўдасканаленьні.

Арганізацыя больш буйных гаспадарак шляхам **дабравольнага і сьведамага** злучэньня дробных, у мэтах супольнай эксплёатацыі зямлі, прынясе вялікія карысьці сялянству. Калі гаспадар, які мае 3 або навет і болей гэктараў зямлі, ня можа стасаваць у сябе жняярку ці малатарню, то для 20 такіх гаспадароў гэткі набытак зусім даступны.

Бачым тут, што коопэратыўныя (арцельныя) формы гаспадараваньня куды выгаднейшыя ў параўнаньні з формамі індывідуальнымі. І дзяржава павінна будаваць сваю аграрна-коопэратыўную палітыку, выходзячы з гэтага пункту гледжаньня.

Да гэтай справы трэба падходзіць плянова, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на моладзь, як элемэнт больш падатны да ўсяго новага. Ад маладога пакаленьня лягчэй дабіцца таго, каб вёска ахвотна пераходзіла на новыя формы гаспадараваньня, не патрабуючы ніякага прымусу з боку дзяржавы.

У выніку ўсіх гэтых мерапрыемстваў мы ўяўляем сабе будучую вёску, як гаспадарчую коопэратыўна-арцельную адзінку, дзе ўсе сябры аднак ня страцілі асабістага зацікаўленьня ў выніках сваёй працы. Трэба, знача, пагадзіць інтарэсы суцэльнасьці (арцелі) з інтарэсамі спалучаных гаспадароў.

У савецкай камуне і калгасах забясьпечаны інтарэсы толькі арцелі. Паасобныя сябры камуны апынуліся там на палажэньні жывога, інвэнтара з якім ніхто ня лічыцца — і толькі. Гэткае вырашэньне справы задаволіць нас ня можа, бо мы трымаемся таго пагляду, што ня людзі павінны існаваць для камуны з яе трактарамі і электрыфікацыяю, а наадварот — гэтая апошняя творыцца для аблягчэньня палажэньня яе сяброў і існуе толькі для іх.

Закараненьне і ўзмацненьне коопэратыўна-арцельных пачаткаў у сельска-гаспадарчых працэсах павядзе за сабою, між іншым, радыкальныя перамены ў галіне хатняй гаспадаркі і вясковага быту наагул. Акажацца, напрыклад, зусім непатрэбным, каб у вёсцы, маючай 100 хат, штодня тапілася 100 пячэй, а каля іх ад раніцы да вечара тапталася 100 кабет, каб накарміць 500 чалавек. Будзе зразумелым для ўсіх, што пры коопэратыўна-арцельных умовах куды выгадней гэтую-ж працу даручыць нейкім 20 кабетам, ці слабасільным мужчынам, каторыя на агульнай кухні зварацаць страву для тыхжа 500 чалавек куды хутчэй, чым 100 кабет пры ўмовах індывідуальнага вядзеньня гаспадаркі.

Увесь гэты пераварот у жыцьці вёскі правядзецца ня з прымусу, як у Саветах, і не пад уплывам выключна аднэй агітацыі, а сам праз сябе — у сілу гаспадарчай канешнасьці.

Побач з пашырэньнем новых формаў гаспадараваньня, будзе павышацца і культурны ровень самых сялянскіх масаў.

Рэформы ў аграрнай галіне, каторыя застасуе ў сябе дзяржава будучыні, вывядуць сялянства на шырокі шлях усебаковага поступу.

## Наша пошта.

А. Віткоўскаму: Аб перахаваньні хлеўнага гною знайдзеце ў гэтым нумары „Самапомачы“. З беларускай літаратуры можам Вам парадзіць „**Ziemlarobskuju čytanku**“ — інж. А. Клімовіча. Дастанеце яе ў нашай рэдакцыі, калі прышліцё на наша конта ў П.К.О. 1 зл. — „Самапомач“ будзем Вам стала пасылаць.

М. З — цу: А шкода, што ў Вас не хапіла часу нас адведаць: не прамініце-ж нас наступным разам. „Самапомач“ Вам пасылаем. А можа Вы зьбераце там каля сябе дзесятку падпішчыкаў: было-б гэта і для Вас таней і для нас выгадней.

Ш. М — му: На паказаны адрэс „Самапомач“ пасылаем. Рады мы, што ў Вас людзі горнуцца да роднай асьветы. Так і трэба — А можа Вы самі апішаце, як гаспадарыце? Будзе гэта цікава.

Г. К — ву: Падпіску на „Самапомач“ прысылайце праз П.К.О. (№ конта 180.485) або разрахунковым пераказам. Наш нумар картотэкі 40.

Фэл. Грышкевічу: Дагэтуль не атрымалі мы адказу з Кооп. Рады: ургуем, а як атрымаем — паведамім.





*УВАГА!* *УВАГА!*

*Пры рэд. «Самапомачы» вядзецца аддзел праўных парадаў, якім кіруе безінтэрасоўна беларуская адвакацкая сіла Асобы, якія маюць якіясь пытаньні, павінны іх ясна і выразна напісаць на пісьме і прыслаць у нашу рэдакцыю. Адказы — невялікія будуць друкавацца ў «Самапомачы». На адказы большыя трэба далучыць паштовую марку за 25 грашоў.*

*Рэдакцыя „САМАПОМАЧЫ“*



